 

# Паспяховае развіццё сельскай гаспадаркі БССР



*Старшыня Совета Міністраў БССР М. Я. Аўхімовіч.*

28 сакавіка г. г. у часе сесіі Вярхоўнага Совета СССР пятага склікання ў спрэчках па дакладу першага сакратара Цэнтральнага Камітэта КПСС і старшыні Совета Міністраў СССР М. С. Хрушчова «Аб далейшым развіцці калгаснага ладу і рэарганізацыі машынна-трактарных станцыі» з прамовай у Совеце Нацыянальнасцей выступіў старшыня Совета Міністраў БССР і дэпутат ад Магілёўскай выбарчай акругі М. Я. Аўхімовіч.

Адзначыўшы вялікае гістарычнае значэнне пытанняў, узнятых у дакладзе М. С. Хрушчова, прадстаўнік Беларускай ССР азнаёміў са станам сельскай гаспадаркі ў рэспубліцы і падзяліўся з планамі рэарганізацыі МТС. М. Я. Аўхімовіч гаварыў аб хуткім эканамічным развіцці краіны пасля XX-га з'езду партыі, наглядным прыкладам чаго з'яўляецца, у прыватнасці, павелічэнне на 26 прац. прамысловай прадукцыі. Сур'ёзных поспехаў дабілася асабліва лёгкая і харчовая прамысловасць. Паводле Аўхімовіча крыніцай гэтых станоўчых зрухаў была перабудова апарату кіравання народнай гаспадаркай, якая выклікала ўздым актыўнасці працоўных і значны ўзрост іх пачуцця адказнасці за справы гаспадарчага будаўніцтва ў Беларусі.

Беларускі дэпутат азнаёміў з пэўнымі поспехамі ў галіне айчыннай сельскай гаспадаркі. Прыгадаем некалькі характэрных даных, адлюстроўваючых яе стан. У 1949 годзе Беларусь налічвала амаль 15.000 калгасаў, а пасля іх узбуйнення ў краіне ёсць цяпер 3.951 калгас. Разам з узбуйненнем дробных сельскагаспадарчых арцелей, значна павялічылася плошча ворнай зямлі і даход калгаснікаў. Калі ў 1949 годзе грашовы даход на аднаго працаваўшага калгасніка складаў 368 рублёў, то ў 1957 г. складае 2. 473 рублі. Наглядаем значны ўзрост забеспячэння сельскай гаспадаркі рэспублікі тэхнікай. У сучасны момант на калгасных палях працуе звыш 34.000 трактараў, 9.600 збожжавых камбайнаў, 23.700 аўтамашын. Добратворны ўплыў на паспяховае развіццё сельскай гаспадаркі аказваюць кіруючыя работнікі калгасаў, якія ўсемерна павышаюць свае кваліфікацыі. І так напрыклад, 55 прац. старшынь калгасаў маюць вышэйшую і сярэднюю адукацыю. А існуючыя ва ўсіх калгасах партыйныя арганізацыі таксама ўносяць свой сур'ёзны ўклад у справу лепшага вядзення гаспадаркі.

За апошнія чатыры гады значна павялічыліся пасевы ільну, цукровых буракоў, бульбы, гародніны, кармавых культур.

Трэба таксама падкрэсліць рост капіталаўкладанняў у грамадскую гаспадарку калгасаў, якія за пасляваенны перыяд склалі 5.104 мільёны рублёў.

У сувязі з рэарганізацыяй машынна - трактарных станцый значная частка калгасаў выказала жаданне набыць машыны і трактары ўжо ў гэтым годзе. М. Я. Аўхімавіч адзначыў, што ў 147 раёнах арганізуецца па адной РТС (Рамонтнай трактарнай станцыі), 81 РТС будзе мець філіялы, а 58 МТС вырашана захаваць, паколькі пэўная частка калгасаў не мае створаных неабходных умоў для высокапрадукцыйнага выкарыстання гэтай тэхнікі.

Гэтыя важныя мерапрыемствы ў сельскай гаспадарцы Беларусі ўзнімаюць рад новых пытанняў, як, напрыклад, патрэбу ва ўнясенні адпаведнай колькасці арганічных угнаенняў на пясчаных і супяшчаных глебах краіны і падрыхтоўкі механізатарскіх кадраў. Ужо цяпер існуюць рэзервы новых кадраў, якія за апошнія гады рыхтаваліся ў вучылішчах.

На заканчэнне сваёй прамовы М. Я. Аўхімовіч выказаў упэўненасць што ажыццяўленне задач, намечаных у пастанове лютаўскага Пленума ЦК партыі і ў дакладзе М. С. Хрушчова пашыраць народны дабрабыт і наблізяць перамогу комунізма.

## Нарада калгасных будаўнікоў у Мінску

У Мінску закончылася рэспубліканская нарада калгасных будаўнікоў, у якой прымала ўдзел 600 дэлегатаў. У нарадзе ўдзельнічалі дэлегацыі Украіны, Літвы і Латвіі.

Нарада заслухала даклад сакратара ЦК КП Беларусі тав. Д. Ф. Філімонава, які азнаёміў прысутных са станам і мерамі дальнейшага развіцця калгаснага будаўніцтва ў рэспубліцы.

Пасля даклада разгарнуліся спрэчкі. Выступаючыя ў іх гаварылі аб вялікім уроне, які быў нанесены айчыннай сельскай гаспадарцы гітлераўскімі захопнікамі. Вораг знішчыў больш 400 тысяч калгасных хат і 52 тысячы пабудоў грамадскага характару. Было знішчана больш 9 тысяч вёсак і сёл.

У пасляваенны перыяд у беларускай вёсцы пабудавана калгаснікам 545 тысяч хат, 86 тысяч жывёлагадоўчых будынкаў і больш 76 тысяч культурна - бытавых гаспадарчых і іншых будынкаў. Толькі ў мінулым годзе на калгаснае будаўніцтва выдаткавана поўтара мільярда рублёў. Да канца шостай пяцігодкі калгасы рэспублікі думаюць выдаткаваць на капітальнае будаўніцтва звыш 5 мільярдаў рублёў.

У часе нарады з задавальненнем гаварылася аб выкарыстанні калгасамі мясцовых сыравін у будаўніцтве. У сучасны момант у рэспубліцы працуе 36 кааператыўных аб'яднанняў, якія маюць уласны транспарт, майстэрні і неабходную ў калгасным будаўніцтве тэхніку.

## Вясна ў вершах

* *
*

Зіма утраціла законы,
І згінуў снег ужо з палёў,
Уздоўж раздуўшыхся загонаў
Вада зцякае да лугоў.

Загаварыла шумна рэчка:
— Снег мне дастарчыў шмат вады,
Цяпер магу я ўжо без спрэчкі
Прагнаць упартыя ляды

Но лёд яшчэ не паддаваўся
І спорыў доўга ён з вадой,
Ноччу халодную смяяўся:
— А як табе там пада мной?

Сонца раней ўжо стала ўсходзіць
А ночка стала карацей.
І вецер ўжо інакш заводзіць
І бусел у госці прыляцеў.

АЛЁХА ДУБ

## З вясною...

Ясней сонца засвяціла,
Ручайкі плывуць, бурляць
Вясна косы распусціла,
Зіме больш не панаваць.

Над прасторнымі палямі
Шэры жаўранак плыве
Над зялёнымі лугамі
Песню звонкую пяе.

Гэта песня кліча ў поле:
— Гаспадар, ідзі гараць!
Засявай зярно ў ролю,
Каб багаты плён сабраць

«КОЛЯ»

Мгр. М. КАНАПАЦКІ 3)

## Творчае сяброўства братніх літаратур

**(Да пытання аб польска—беларускіх літаратурных сувязях у XIX стагоддзі)**

Не ўдалося рэакцыйнаму крылу беларускай школы выпусташыць вусна - паэтычную творчасць беларускага народа ад яго своеасаблівага «фальклорнага» рэалізма, які вызначаўся моцнымі крытычнымі элементамі. А крытыцызм беларускіх казак і песень праяўляўся ў асуджэнні соцыяльнай несправядлівасці і сатырычных адносінах да пануючых класаў і іх прыслужнікаў. Не трэба забываць, што ва ўмовах забароны беларускага друкаванага слова ў форме народнай творчасці праяўлялася паэтычнае жыццё народа, захоўвалася яго нацыянальная культура і мова, выражалася самасвядомасць прыгнечаных сялянскіх мас. Больш таго, рэалізм гэтай творчасці садзейнічаў станаўленню мастацкага рэалізма ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя. І толькі ў гэтым святле можам ацэньваць вялікую ролю прагрэсіўнага крыла беларускай школы для нашай літаратуры. Сваё замілаванне да беларускага фальклору прывіў Адам Міцкевіч пісьменнікам, якія належылі да беларускай школы. На гэтую акалічнасць звяртае ўвагу польскі літаратуразнаўца Ю. Галомбек у сваёй працы «Вінцэнты Дунін - Марцінкевіч — польска - беларускі паэт» (Вільня, 1932). Ён піша: «Несумненна не хто іншы, а толькі Міцкевіч мае вялікую заслугу ў абуджэнні цікавасці для песні беларускага люду, тым больш, што пісьменнікі, якія належылі да беларускай школы, знаходзіліся пад яго моцным уплывам». Гэтае замілаванне прывіў таксама паэт членам тайнага польскага студэнцкага гуртка «Філаматаў», душою якога ён быў. У філамацкім асяроддзі шмат увагі прысвячалася вывучэнню фальклору, этнаграфіі, а таксама эканомікі і геаграфіі Беларусі. Характэрным, напрыклад, з'яўляецца факт, што паводле спецыяльнай інструкцыі філаматы вывучалі этнаграфію і фальклор сваіх родных мясцін. Сярод даследчыкаў Беларусі сур'ёзным падыходам да гэтай працы вылучаліся ў першую чаргу: Міцкевіч, Ежоўскі, Малеўскі, Зан, Чачот. Што датычыцца Яна Чачота, дык ён, уласна кажучы, быў першым беларускім вучоным — фалькларыстам, адкрыўшым шлях для дзейнасці такіх вучоных, як Шэйн, Раманаў, Карскі і інш. Вынікам плённай дзейнасці Чачота было шэсць кніжак — зборнікаў «Сялянскіх песняў з-пад Нёмна і Дзвіны», якія выходзілі на змешанай польскай і беларускай мовах на працягу 1837—1846 гг. у Вільні. Пяру Чачота належаць таксама вершы, напісаныя на беларускай мове ў духу народнай творчасці і прысвечаныя сялянскай тэме. Нягледзячы на ўласцівыя паэту дваранска-ліберальныя пазіцыі, якія не дазвалялі ўбачыць усіх заган тагачаснага прыгонніцкага ладу, некаторыя вершы Чачота вызначаліся пэўнымі крытычнымі адносінамі да рэчаіснасці. Так, напрыклад, у вершы «Імяніннае пасвяшчэнне» гаворыцца аб бясчынствах асэсара, які здзекваўся над сялянамі. У творы высьмейваюцца тыя паны, якім мова беларускага селяніна «вушы свідруець».

Варта наогул бліжэй пазнаёміцца з адносінамі Чачота да беларускіх сялян, з адносінамі, якія абвяргалі погляды рэакцыйных польскіх пісьменнікаў аб іх нібыта духоўнай няпоўнацэннасці. «Нашы сяляне, — пісаў паэт у адным са сваіх фальклорных зборнікаў, — народ добры, пакорлівы, працавіты, сумленны. Яны павінны ўзбуджаць у нас самыя прыхільныя да іх пачуцці. З імі мы можам быць шчаслівы. Аддаючы за працу іх рук працу нашай думкі і асветы, мы можам павялічыць агульнае дабро. Дарэмна думаць, што нам няма чаго ад іх навучыцца. Мы шмат чаго навучымся, пазнаўшы іх становішча і побыт. Мы знойдзем у іх старадаўнія казкі, аповесці, пераказы і незвычайнае багатае будзе жніво песень, якія даюць магчымасць даведацца аб іх чулых, прыгожых, нават тонкіх і глыбокіх пачуццях».

Вялікую цікавасць прадстаўляюць таксама лінгвістычныя погляды Чачота, змешчаныя ў зборніку «Сялянскія песні з-пад Нёмна і Дзвіны» за 1846 год. Яны сведчаць аб надзвычай сур'ёзным падыходзе паэта да пытанняў беларускай мовы. У зборніку выказваецца думка аб неабходнасці навуковага абгрунтавання яе фанетычных і марфалагічных асаблівасцей. Чачот прызнае, што «цяпер настала неабходнасць паправіць нядбальства мінулых вякоў і заняцца ўкладаннем граматыкі і слоўніка беларускай мовы... Бо калі-б захацелі ў будучым вучыць сялян другой мове, то яны не зразумеюць яе належным чынам, не маючы ў сваёй уласнай мове тлумачэння слоў той другой мовы». Адначасова паэт выказвае думку, што апрацаваць такую граматыку можа толькі адукаваны чалавек, выхадзец з народных мас. А гэтым чалавекам паводле Чачота можа быць «селянін, што прыкладае свае навуковыя веды да абгрунтавання добра вядомай яму роднай мовы». Гэтыя выказванні набываюць тым большае значэнне, што з'явіліся ў перыяд, калі наспела неабходнасць апрацоўкі норм літаратурнай мовы, без якой не магла развівацца беларуская нацыянальная літаратура. Чачот, уводзячы сваімі арыгінальнымі беларускімі творамі беларускую мову ў кола літаратурнага ўжытку, а

*(Працяг на стар. 6)*



 

 

# Трэба вучыцца будаваць па-балгарску



На здымку бачым невялікую дачу з агародцам. Хто жыве ў гэтай дачы? Мабыць лекар ці загадчык нейкай кааперацыі? А мо' тут дзіцячы сад? Не, тут жыве сялянская сям'я. На партэры ёсць кухня, пральня, бакоўка, а на паверсе — пакоі. Як-жа селянін пабудаваў сабе такі дом?

Найлепш і найхутчэй гэта рабіць у шасцёх. У тым месцы, дзе маецца стаяць дом, трэба зрабіць выкап на фундамент. Двух гаспадароў капаюць гліну (бо зямля тут глiністая), звільготненую настолькі, каб сціснутая ў руках фармавалася ў груды; адзін возіць гліну тачкай да ручнога прэса, двух робяць цэглы; адзін адвозіць і складае да сушэння. На працягу дня такім чынам можна зрабіць у сярэднім 6.000 штук сырой цэглы — па тысячу штук на адну асобу.

Пасля двух тыдняў, дзень у дзень папрацаваўшы, кожны зробіць столькі сырой цэглы, колькі трэба на дом. Калі цэгла прасохне, тады кожны на сваім мейсцы складае з гэтай цэглы піраміду. На сам спод трэба палажыць, пакідаючы каналы на цуг, радок паленай цэглы, а паверх яе зложыць цэглу сырую. Да выпальвання саломай цэглу складаецца так, каб што два рады быў вольны (таксама на дзве цэглы шырыні) канал паступова звужаючыся да верху. Аднак выпальваць саломай невыгадна, бо штодзесяць дні і ночы трэба дакладаць яе ізноў. Зрэшты, не ўсюды гэтай саломы ёсць пад дастаткам.

Часцей за ўсё цэглу выпальваецца вугальнай драбязою. У такім выпадку каналы паміж цэглай павінны быць значна меншыя, цэглу складаецца шчыльна перасыпаючы кожны радок невялікай колькасці драбязы. На тры тысячы штук цэглы патрэбна 1 тона драбязы. Калі ўжо ўсё зроблена, тады трэба падпаліць вугальную драбязу са споду і пачакаць два тыдні. Праз гэты час ўся драбяза перагарыць аж да верху, печ пагасае і стыгне. Пасля двух тыдняў вонкавыя цэглы адкідаем, а з рэшты — гэта моцныя чырвоныя цэглы, маем будаўнічы матэрыял.

Праз гэты час, як цэгла выпальваецца трэба падрыхтаваць іншыя будаўнічыя матэрыялы: каменне на фундамент, бэлькі, чарапіцу і інш. Калі ёсць увесь неабходны матэрыял — тады смела можна брацца за работу.

У Балгарыі новыя дамы, гаспадарчыя будынкі вырастаючыя муры прыйшлося пабачыць, па дарозе, у кожнай вёсцы.

У 1956 г. у балгарскіх вёсках пабудавана 13 082 новых дамоў, якіх жыллёвая плошча складае лік 909.071 квадратных метраў.

У мінулым годзе жыллёвае будаўніцтва на вёсцы яшчэ шырэй разгарнулася. Здаецца, што на развіццё будаўніцтва балгарскай вёскі вялікі ўплыў зрабіла сельскагаспадарчая кааперацыя. Якім чынам?

Памінаючы справу даходаў, трэба сказаць, што кааператывы вызвалілі сваіх членаў ад навалы пастаяннай працы, якая пры ўмовах індывідуальнай гаспадаркі не давала магчымасцей паасобным гаспадарам адарвацца ад поля і заняцца будаўніцтвам. У сучасны момант, частка членаў сельскагаспадарчых кааператываў, без страты для кааператываў, мае на гэта патрэбны час. Сельскагаспадарчыя кааператывы стварылі сялянству карысныя абставіны арганізавацца ў гурткі, каб вырабляць будаўнічыя матэрыялы на ўласную карысць. Сельгаскааператывы Балгарыі дастаткова вялікія, таму ствараюцца спецыяльныя будаўнічыя брыгады, якія праз увесь сезон нічога не робяць, толькі будуюць дамы, гаспадарчыя і камунальныя будынкі.

Вось, напрыклад, у сельгаскааператыве ў Стаціне пабудавана ўжо больш чым 100 калектыўных гаспадарчых будынкаў і 214 новых жыллёвых дамоў. За працу пры пабудове будынкаў сельгаскааператыў плаціць уласнымі працаднямі. Кааператыў у Стаціне плаціць да 80—120 працадзён (у растэрмінаўку, або аднаразова — як у гэтым годзе) на год.

Часта здараецца і так, што член сельгаскааператыва ставіць сабе два будынкі: адзін сабе, а другі для падрастаючай дачкі.

Балгары гавораць: «Калі турак багацее — купляе сабе другую жонку, а калі балгар багацее — будуе другі дом».

А што дзеецца ў нас? І ў нас ёсць усе спрыяльныя ўмовы да таго, каб будаваць такія цагельні, як у Балгарыі. Ёсць адпаведная гліна, і вугальнай драбязы мусіць не забракуе, а ручныя прэсы — гэта таксама не вялікая «філасофія».

Трэба толькі навучыцца балгарскаму спосабу выпальвання цэглы, і развіваць яго ў шырокім маштабе. Зрэшты і ў нас некаторым сялянам вядомая гэта штука, толькі чамусьці не развіваюць вытворчасці.

У нашай краіне ёсць прадпрыемствы і арганізацыі, якіх заданнем з'яўляецца падтрымоўванне будаўніцтва на вёсцы, аднак калі разыходзіцца аб будаўнічыя матэрыялы — дык яны чамусьці азіраюцца на дзяржаўную прамысловасць, а не думаюць, каб на вёсцы развіць гэтую галіну вытворчасці.

І. КЛІГЭРТ
(Хлопска Дрога)

# Сельскагаспадарчыя парады

## Гадуем куранят

*У Беластоцкім ваяводстве ёсць 9 інкубатараў, дзе можна купіць куранят: Беласток, Бельск, Саколка, Ломжа, Шапятова, Аўгустаў, Элк, Прасткі і Алецка. Кураняты прадаюцца штотыдзень па аўторках, серадах і чацвяргах. Цана — па 5 зл за штуку.*

*Купленыя кураняты можна далучыць да куранят выседжаных курыцай. Пры гэтым трэба памятаць, каб на поўгадзіны забраць квактуху, каб купленыя кураняты прапахлі супольным пахам. Трэба гэта зрабіць не пазней як у наступны дзень пасля таго, як кураняткі павыклёўваюцца, калі ўзрост усіх куранят аднолькавы.*

*Кураняты з інкубатара можна таксама падкладаць пад наседку сядзеўшую на яйках толькі праз некалькі дзён, падкладаючы па адным і ўважаючы ці квактуха іх не дзяўбе. У поўгадзіны па прывязенні куранят з інкубатара даем ім перагатаваную ваду і мінеральны корм складаючыся з патоўчаных скарупак яек гатаваных праз дзве гадзіны, дробназярністага пяску, тоўчанай цэглы і драўлянага вугалю. Пасля гадзіны даем першы натуральны корм. Можа гэта быць грэчаная каша, адсеяны пшанічны корм (сьрута), альбо мешанка ДК. Калі няма гэтых кармоў можна даць аўсяныя платкі альбо кашу манну. У першым тыдні жыцця куранят трэба карміць 6—7 разоў у дзень, што дзве і поў гадзіны. Пажаданым ёсць задаваць куранятам льнянае семя і з першага дня даваць адтлушчанае кіслае малако, альбо свежы тварог ці маслянку. Пры кармленні куранят трэба дбаць аб тое, каб пасудзіны былі чыстымі — гэта вельмі важна для таго, каб утрымаць іх здаровымі.*

*З другога дня даецца цёртую чырвоную моркву, цукровыя буракі, альбо цыбулю. Добрай зелянінай з'яўляецца крапіва.*

*Чатырохтыднёвым куранятам можна ўжо даваць пшанічны корм і ячменны корм (ломанае зерне), а на шостым тыдні пачынаем дадаваць да вільготнай пашы крыху абранай гатаванай бульбы. У гэтым перыядзе даем корму 3—4 разы ў дзень.*

*Пасля заканчэння шасці тыдняў жыцця кураняты патрабуюць многа зелені, паветра, сонейка, прасторы і руху. Найлепш калі могуць папасвацца на неаграніачанай зялёнай прасторы як сад, або сухое пасбішча. Калі ў гаспадарцы не знойдзецца спецыяльнага палетка для гэтага, тады трэба абсеяць травою частку гарода, прызначваючы яе для куранят.*

*Калі хочам забяспечыць куранят ад хваробы, трэба дбаць, каб не стыкаліся яны з здаровымі курамі і не трэба трымаць у агульным стадзе штук хворых і слабых.*

*В. ТРАХІМОВІЧ*

Мгр. М КАНАПАЦКІ

# Творчае сяброўства братніх літаратур

**(Да пытання аб польска—беларускіх літаратурных сувязях у XIX стагоддзі)**

*(Працяг са стар. 3)*

таксама сваімі лінгвістычнымі разважаннямі спрыяў развіццю маладой беларускай літаратуры.

Каштоўны ўклад у развіццё беларускай літаратуры ўносіў таксама тагачасны прагрэсіўны польскі друк. Яшчэ ў першай палове XIX ст. на старонках такіх перыядычных выданняў, як «Тыгоднік Петербургскій» (1844), «Рочнік літэрацкі» (1843—1846) і «Зніч» з'яўляліся творы беларускай пісьмовай літаратуры і фальклору. Асабліва шмат месца ўдзяляў гэтым справам польскі друк у Вільні, дзе згуртавалася польская і маладая беларуская інтэлігенцыя. Вакол, напрыклад, польскай газеты «Кур'ер Віленскі» у другой палове XIX ст. утварыўся нават гурток беларускіх паэтаў і філолагаў, у склад якога ўваходзілі Караткевіч, Каратынскі, Земкевіч і перакладчык «Конрада Валенрода» на беларускую мову Дарэўскі-Вярыга. Гэты гурток карыстаўся падтрымкай лепшых прадстаўнікоў польскай дэмакратычнай інтэлігенцыі — паэта Людвіка Кандратовіча, выдатнага кампазітара Станіслава Манюшкі і даследчыка літаратуры Адама Кіркора. З кожным годам пашыралася кола польскай інтэлігенцыі, якая спачувальна ставілася да культурнага адраджэння беларусаў. З яе асяроддзя выходзілі людзі, якія ўносілі свой уклад у фарміраванне беларускай нацыянальнай літаратуры. Паасобныя пісьменнікі і літаратурныя крытыкі вельмі дапамаглі беларускаму народу ў справе ўзвядзення забароненай і пагарджанай на працягу цэлых стагоддзяў яго роднай мовы на ступень літаратурнай.

Надзвычай цікавым і параўнальна мала вывучаным з'яўляецца пытанне ўплыву польскай прагрэсіўнай літаратурнай крытыкі на фарміраванне творчасці аднаго з першых сейбітаў на ніве беларускай рэалістычнай літаратуры — Дуніна - Марцінкевіча. У мінулым годзе беларуская грамадскасць адзначала 150-годдзе з дня нараджэння пісьменніка. У сувязі з гэтай датай беларускі совецкі літаратурны друк прысвяціў Марцінкевічу шэраг цікавых артыкулаў, якія ўносяць шмат новага і каштоўнага ў справу больш дакладнага азнаямлення з яго творчасцю. Нават павярхоўны агляд гэтых матэрыялаў гаворыць нам аб цесных узаемаадносінах паміж польскай літаратурай і творчай спадчынай Марцінкевіча, аб узаемаадносінах, якія складаюць слаўную старонку ў гісторыі польска - беларускіх літаратурных сувязей мінулага стагоддзя.

Пачатак літаратурнай дзейнасці Марцінкевіча прыпадае на 40-ыя годы. Першым яго буйным творам было лібрэта двухактовай камічнай оперы «Сялянка», музыку да якой напісаў польскі кампазітар Ст. Манюшка. У друку яна з'явілася ў 1846 годзе. Аднак самую шырокую вядомасць опера набыла ў перыяд 1852—1855 гг., дзякуючы яе пастаноўцы ў Мінску. Першым сур'ёзным водгукам на пастаноўку оперы быў артыкул польскага дэмакратычнага паэта Людвіка Кандратовіча, змешчаны ў «Газеце варшаўскай» ў 1855 годзе. Гэты артыкул належыць да ліку трох, якія, паводле азначэння беларускага совецкага літаратуразнаўцы С. Александровіча «былі першай грунтоўнай размовай пра творчасць Дуніна - Марцінкевіча» («В. І. Дунін - Марцінкевіч і польская крытыка», «Літаратура і мастацтва», 1957, №95). Кандратовіч, станоўча ацэньваючы «Сялянку» за багаты збор «матэрыялу вялікай вартасці для рознастайнага вывучэння народных звычаяў», піша, што «Марцінкевіч выдатна знаёмы са складам і паэтычнымі адценнямі крывіцкай паэзіі, першы адважыўся сам складаць у вялікім маштабе творы на нашай народнай мове». Польскі крытык раіць Марцінкевічу ўдасканальваць сваё паэтычнае майстэрства і прысвяціць сябе літаратурнай дзейнасці на беларускай мове. Нашую ўвагу павінны звярнуць тыя словы Сыракомлі (псеўданім Кандратовіча), у якіх ён піша аб адвазе Марцінкевіча тварыць на беларускай мове. Так, у тыя часы трэба было сапраўды валодаць адвагай, каб быць беларускім пісьменнікам. Трэба было ўмець, не звяртаючы ўвагі на праследванні і забарону беларускай мовы царскім урадам з аднаго боку і наступ польскіх шавіністычных літаратурных колаў з другога, мужна выстаяць на абраным шляху. Невыпадкова ў польскім вершы «Хіба я стары?» (1856), урыўкі з якога ў перакладзе А. Зарыцкага ўпершыню былі надрукаваны ў «Літаратуры і мастацтве» 21 снежня 1957 г. (№101), так піша беларускі пясняр, звяртаючыся да ворагаў яго беларускай творчасці:

Ваш суд мне не страшны, хай злосна скавыча
У будцы сабака, увагі на пса не звярну я.
Як раіць пясняр Сыракомля, пішу я
Цяпер, як заўсёды на мове мужычай.

Ці-ж гэты ўрывак не сведчыць аб мужнасці беларускага пісьменніка, якога сваімі парадамі ўзбройваў Сыракомля?

*(Працяг будзе)*



 

